# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 52 (252) | ГОД V | БЕЛАСТОК, 25 СНЕЖНЯ 1960 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.


## У НАСТУПНЫМ НУМАРЫ »КАЛЯНДАР НІВЫ«

**У наступным нумары (навагоднім) будзе змешчаны «Каляндар Нівы», у якім, між іншым, знойдуць чытачы праваслаўныя святы і імяніны.**

**Патрабуйце ў кіёсках «Ніву».**

НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

## НАСТАЎНІКІ-ДЫПЛОМНІКІ

10 снежня адбылося ўрачыстае ўручэнне дыпломаў выпускнікам Завочнай настаўніцкай студыі ў Беластоку. У сувязі з гэтым звярнуліся мы да дырэктара ЗНС Зыгмунта Петкевіча і яго намесніка Яна Радзюкевіча, каб коратка расказалі яны аб выпускніках сваёй установы.

— Завочная настаўніцкая студыя, — гаворыць нам яе дырэктар Зыгмунт Петкевіч, — дала ўжо тры выпускі высокакваліфікаваных з паўвышэйшаю адукацыяй настаўнікаў. Ужо 169 асоб атрымала дыпломы ЗНС. У гэтым ліку польскую філалогію закончылі 53 асобы, матэматыку 50, беларускую філалогію 35 і фізіку 31. Найбольш настаўнікаў павышае свае веды на ЗНС з Бельскага і Гайнаўскага паветаў.

Калі разыходзіцца пра беларускую філалогію, а гэта найбольш цікавіць, дык найлепш знае ўсе яе справы намеснік дырэктара мгр Ян Радзюкевіч, які ўзначальвае гэтую секцыю. І вось мы ў яго кабінеце. Ён, як заўсёды, ахвотна і ветліва дае нам інтэрв'ю.

**— Раскажыце, калі ласка, аб узроўні ведаў дыпломнікаў на беларускай філалогіі, — звярнуўся я да намесніка дырэктара.**

— Калі параўнаць веды выпускнікоў з двух мінулых год, дык зараз яны найвышэйшыя. Сярод 18 абсальвентаў толькі трох з іх закончыла ЗНС з пасрэднай ацэнкай. Трэба адзначыць, што ўсе тыя, якія закончылі беларускі агульнаадукацыйны ліцэй у Бельску, былі найлепшымі студэнтамі.

Выдатнікам гэтага выпуску з'яўляецца настаўніца з сямікласнай школы ў Луцэ (Гайнаўскі павет) Ольга Ніцыпарук. Даволі добра здавалі экзамены і абаранілі дыпломныя работы Аляксей Карпюк з Бельска і Валянціна Мамотка, — настаўніца з Рыбал (Бельскі павет).

— Вельмі добра гаворыць аб вышэйшым узроўні ведаў сёлеташніх нашых выпускнікоў, — працягвае мгр Ян Радзюкевіч, — тэматыка дыпломных работ. У гэтым годзе яна значна шырэйшая, значна цікавейшая.

Адчуваецца, што мгр Ян Радзюкевіч многа сэрца ўкладае ў працу на беларускай філалогіі.

Ён з задавальненнем аб ёй расказвае.

— На першым курсе, гаворыць, — зараз 18 студэнтаў, а на другім 23. Пажаданым было б, каб у ліпені 1961 года прыступіла да вучобы на беларускай філалогіі не менш 25 асоб. Прыемна, калі ў сярэдніх школах беларускую мову і іншыя прадметы навучаюць на патрэбным навучальным і педагагічным узроўні. А нашыя выпускнікі, — сказаў на заканчэнне мгр Ян Радзюкевіч, — атрымоўваюць многа ведаў і будуць яшчэ лепшымі педагогамі.

**М. Х.**



**Неўміручая «Паўлінка» Янкі Купалы карыстаецца выключным поспехам і не сходзіць са сцэны купалаўскага тэатра з першых дзён яго існавання. У ролі Альжбеты — народная артыстка СССР Л. Ржэцкая. (Чытай на стар. 3 «Слаўная гадавіна, слаўныя традыцыі».)**

## ДЗЕЛЯ АКТЫВІЗАЦЫІ СПЕЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ ДАПАМОГІ

Згодна з пастановай VI Пленума ЦК ПАРП трэба пакласці намаганні, каб на працягу бліжэйшых год на тэрыторыі кожнай грамады ў нашай краіне працаваў аграном, а затым, каб на тэрыторыі ГРН-аў працавала каля 3 тысяч заатэхнікаў і дзейнічала каля 3 тысяч лячніц і ветэрынарных пунктаў. Каб рэалізаваць гэтае заданне, трэба запэўніць спецыялістам жыллёвыя ўмовы і месцы працы ў грамадзе шляхам арганізацыі пабудовы т. зв. агранамовак. Такая арганізацыя сельскагаспадарчай службы павінна абяспечыць неабходны і належны прагрэс у сельскай гаспадарцы. Працуючы ў грамадзе, аграном будзе мець магчымасць вырашаць у канкрэтны спосаб прадукцыйныя праблемы сельскай гаспадаркі ў раёне сваёй дзейнасці, будзе мець магчымасць у практыцы рэалізаваць дырэктывы партыі адносна праграмы развіцця сельскай гаспадаркі ў такіх галінах, як насенняводства, ахова раслін і г. д. Надта важным момантам у працы аграному будзе яго агульнае садзейнічанне ў грамадска - культурным развіцці свайго раёна. Сельскагаспадарчая служба, такім чынам, павінна проста зрасціся непасрэдна з кожнай дзялянкай жыцця вёскі. Адным словам землярбоб павінен штодзённа адчуваць спецыялістычную дапамогу агранома а аграном павінен адчуваць сябе адказным за развіццё сельскай гаспадаркі ў сваім раёне.

Згодна з апрацаваным праектам Бюро студыі і ўзорных праектаў у Варшаве, агранамоўкі павінны быць трох тыпаў:

1. Аднасямейная аграномоўка, дзе побач з жыллём аграному арганізуецца лабараторыя для праводжання менш складаных выпрабаванняў і аналізаў, а таксама памяшчэнне для наведвальнікаў, якія атрымаюць тут інфармацыі і спецыялістычныя парады. Непасрэдна аграном будзе працаваць у сельскагаспадарчых гуртках і гаспадарках.

(Працяг на стар. 4)

## 10 год супольнага гаспадаравання

Мінула ўжо 10 год як спулдзельцы з Крывой, у Бельскім павеце, пачалі гаспадарыць супольна. Пачатак, як заўсёды, не быў лёгкім; прывязанасць да ўсяго дзедаўскага, непаразуменні з упартымі аднавяскоўцамі ў зямельных справах, недахоп усяго, што неабходнае ў новых абставінах гаспадаркі — перш за ўсё машын і гаспадарчых будынкаў. І таму гэта сталі на парадку дня семнаццаціасабовай сям'і землярбоў - кааператыўшчыкаў. Ужо ў 1951 годзе яны пачалі будаваць гаспадарчыя будынкі, купляць машыны і нажываць інвентар.

Мінулае мінулым, але цікава сёння пабываць у кааператыўшчыкаў у вёсцы Крывая. Цікавымі з'яўляюцца дадзеныя аб іх маёмасці, іх дасягненні на працягу 10-ці гадоў.

(Працяг на стар. 5)



НА КАЧКІ. фота М. Тарасевіч

Кур'ёзы

# ПРАЦВІТАННЕ і СВАБОДА

Нядаўна ў Японіі адбыліся парламенцкія выбары. Падчас передвыбарчай кампаніі газеты буйнымі загалоўкамі крычалі аб усебаковым працвітанні японскай эканомікі, аб высокім узроўні жыцця ўсіх слояў японскага грамадства. Гэта было магчымае, — з націскам падкрэслівалі газеты, — дзякуючы цеснаму супрацоўніцтву са ЗША ды іх вялікай фінансавай і гаспадарчай дапамозе.

Пасля выбараў настаtable чорныя будні. Газеты, замест захапленняў аб эканамічным працвітанні, пачалі падаваць: «За фасадам японскага працвітання», «Смерць пад мастом», «Калектыўнае атручванне сям'і газам», «Мастачка канчае самагубствам з-за недахопу грошай». Знаходзяцца таксама інфармацыі аб амерыканскай «дапамозе». Напрыклад, амерыканскія нафтаканцэрны залілі Японію сваімі нафтавымі прадуктамі. Гэта значна паменшыла попыт на японскі вугаль і вугальныя прадукты. Уласнікам шахт і іншых вугальных прадпрыемстваў заглянуў у вочы крызіс. Непасрэдна адбілася гэта на лёсе шахцёраў. У самым буйнейшым цэнтры вугальнай прамысловасці Японіі — на востраве Кюсю (правінцыя Фукуока, раён Тагава) — 40 тыс. шахцёраў асталося без працы ў выніку рэдукцыі. «Раён Тагава, — піша з Японіі карэспандэнт савецкай газеты «За мяжой», — напамінае зараз як бы мёртвую зону». Дагэтуль знаходзіла там працу 100 тыс. шахцёраў. Звольненыя з працы асталіся без ніякіх сродкаў да жыцця. Іх цяжкае становішча выкарыстоўваюць гандляры «жывым таварам». Як падае газета «Санкэй сімбун», злачынцы падманлівым шляхам прадалі да тайных публічных дамоў або іншых прадпрыемстваў гэткага тыпу 161 дзяўчыну. Усе ахвяры гандляроў «жывым таварам» — члены бедных шахцёрскіх сем'яў, якія жывуць на востраве Кюсю.

Гэтакая ёсць праўда. Пад уладай капітала і з амерыканскай дапамогай, замест эканамічнага працвітання, працвітае свабода да галоднай смерці для дзесяткаў тысяч працоўных, працвітае гандаль «жывым таварам».

М. Нурэцкі

# ФОТАВІТРЫНА



Сусветная грамадскасць абурана здзекамі салдат палкоўніка Мабуту над кангалезскім прэм'ерам Лумумбай.
На здымку: прэм'ер Лумумба — ахвяра катавання.



Валерыян Зорын, старшыня Савета бяспекі ААН на месяц снежань г. г. выступае з прамовай у час пасяджэння. Налева: Д. Гамаршэльд.



Непарушная дружба паміж двума вялікімі народамі. Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР Л. І. Брэжнеў і Старшыня Кітайскай Народнай Рэспублікі Лю Шао-ці ў час мітынгу дружбы ў Маскве.



Новае абсталяванне да прадукцыі таматных канцэнтратаў у камбінаце «Пудлішкі».

# АЛЖЫР КАЖА НЕ

Алжыр ізноў прыцягвае ўвагу свету. У Алжыры, Аране, Бонэ і другіх гарадах палілася кроў мусульманскіх жыхароў толькі таму, што яны з усё большай упартасцю і рашучасцю дамагаюцца незалежнасці. Трагічны баланс алжырскіх падзей складае звыш 120 забітых, некалькі тысяч раненых і зняволеных. У грудзі арабаў стралялі ўлтрасы, а пасля французская армія, якая паводле слоў прэзідэнта дэ Голя знаходзіцца ў Алжыры дзеля «захавання міру і парадку». Такое акрэсленне нікога не здзіўляе: дагэтуль яшчэ каланізатары не выдумалі лепшага тлумачэння, каб укрыць свае злачынныя планы.

Апошнія падзеі ў Алжыры трэба, аднак, шырэй абмеркаваць.

Калі два гады таму назад французскі ўрад, узначалены дэ Голем, пераканаўся, што не давядзецца яму перамагчы ў алжырскай вайне, тады апынуўся перад неабходнасцю змены сваёй тактыкі. Толькі пра яе і разыходзілася. Урэшце ніхто ў Парыжы сур'ёзна і не думае аб незалежнасці Алжыра. Гэтую думку адкідалі і адкідаюць перш за ўсё французскія каланізатары, якія пастаянна пражываюць у Алжыры і цягнуць з яго мільённыя прыбыткі. Аднак палітычныя падзеі, а перш за ўсё ўмацаванне алжырскага Фронта нацыянальнага вызвалення і падтрымка з боку большасці дзяржаў на форум Арганізацыі Аб'яднаных Нацый прымусілі французскі ўрад прыхільна аднесціся да рада рэформ на карысць Алжыра. Папярэджваючы генеральныя дэбаты аб Алжыры, дэ Голь загадзя аб'явіў аб правядзенні 8 студзеня 1961 года рэферэндуму, у якім галасуючыя адкажуць на пытанне ці Алжыр і надалей застанецца часткай Францыі, ці будзе ўтвораны незалежны арганізм, пакуль што самакіравальны.

Канчаткова лёсы гэтай краіны будуць вырашаны ў чарговым галасаванні. Яго дата будзе акрэслена французскім урадам. Зразумела, што дагэтуль дэ Голь намагаўся ўтрымаць Алжыр як найбліжэй Францыі. Аднак такое вырашэнне прэзідэнта не падабаецца шавіністычна настроеным ултрасам. Гэта яны аказаліся зачыншчыкамі ўзброенай барацьбы. Гэтым шляхам хацелі сказаць, што з'яўляюцца прыхільнікамі французскага Алжыра. Аднак у гэты раз ултрасаўскія хваляванні закончыліся нечакана. Наогул спакойныя дагэтуль алжырцы, пражываючыя ў большых гарадах, рашуча выступілі супраць ултрасаў. Арабскія кварталы ў паасобных алжырскіх гарадах былі ўпрыгожаны зялёнымі сцягамі — сімваламі Фронта нацыянальнага вызвалення. Прэзідэнт дэ Голь, які ў гэты час знаходзіўся ў Алжыры, мог асабіста пераканацца аб сапраўдных настроях алжырскага народа. Не 8 студзеня, а ўжо цяпер алжырскі народ адказаў «не», выразіў непахісную волю здабыць поўную незалежнасць. Калі б дэ Голь быў паслядоўны, тады б зразумеў што часовы алжырскі ўрад, які ўзначальвае Фронт нацыянальнага адзінства, з'яўляецца сёння вялікай сілай. Гэты факт павінен прымусіць французскі ўрад распачаць сур'ёзныя размовы з прадстаўнікамі Фронта нацыянальнага вызвалення, каб урэшце была спынена гэтая брудная вайна.

Цяжка будзе французскаму ўраду вырашыць гэтае пытанне, тым больш цяжка, што ён ужо неаднойчы быў прымушан рабіць так, як таго хочуць ултрасы. Апошнія выпадкі былі для алжырскага народа найлепшым урокам барацьбы за незалежнасць. Яны сведчаць, што Алжыр, нягледзячы на ўсе перашкоды, здабудзе ўрэшце незалежнасць.

УЛ. ЛАЗІНСКІ




У дзень навуковай дэманстрацыі Керн асабліва дакладна аглядзеў галаву Брыке.

— Вось што, — сказаў ён ёй, закончыўшы агляд. — Сёння вечарам вас павязуць у вялікую аўдыторыю. Там вам давядзецца гаварыць. Адказвайце коратка на пытанні, якія вам будуць задаваць. Зразумелі?

Керн адкрыў паветраны кран, і Брыке прашыпела:

— Зразумела.

Нялёгкім заданнем было даставіць галаву ў залу пасяджэння навуковага таварыства. Самы малы штуршок мог аказацца смерцю для галавы.

Роўна ў восем гадзін на кафедру ўвайшоў прафесар Керн. Прысутныя віталі яго доўганезмаўкаючымі апладысментамі.



Кінаапарат затрашчаў. Газетны муравейнік заціх. Прафесар Керн пачаў даклад.

Гэта было выдатнае па форме і спрытна пабудаванае выступленне. Яго прамову некалькі раз спынялі апладысменты. Сотні дам настаўлялі на яго біноклі і ларнеты. Біноклі і манаклі мужчын з не меншай цікавасцю накіроўваліся на галаву Брыке, якая штучна ўхмылялася.

Па знаку прафесара Керна сідзелка адкрыла кран, пусціла паветра, і галава Брыке атрымала магчымасць гаварыць.

— Як вы чуецеся? — спытаў яе старэнькі вучоны.

— Дзякую, добра.

Голас Брыке быў глухі і хрыпеў, моцна пушчаная струя паветра свісцела, гук быў амаль пазбаўлены мадуляцый, тым не менш выступленне галавы выклікала нязвыклае ўражанне.

Хваляванне Ларан усё павялічвалася. Яе пачынала трасці нервовая ліхаманка. «Пара», — некалькі раз гаварыла сабе, але кожны раз ёй не хапала рашучасці. Абставіны прыгняталі яе.

Пачаліся прамовы.

На кафедру ўвайшоў сівенькі дзядуля, адзін з самых вялікіх вучоных.

Ён пачаў гаварыць аб геніяльным адкрыцці прафесара Керна, аб усемагутнасці навукі, аб перамозе над смерцю, аб шчасці мець зносіны з такімі розумамі, якія дараць свету цудоўныя навуковыя дасягненні.

І ў гэты момант нейкі віхор доўга стрымліванага гнева і нянавісці падхапіў Ларан і панёс яе. Яна ўжо не валодала сабою.

Яна кінулася на кафедру, ледзь не збіўшы з



ног ашаломленага старэнькага, амаль скінула яго, заняла яго месца і са смяротна бледным тварам і ліхаманкава гарэўшымі вачыма, пачала сваю палымяную прамову.

Уся зала ўскалыхнулася пры яе з'яўленні.

Спачатку Керн зрабіў мімавольны рух у бок Ларан, быццам хацеў стрымаць яе. Потым ён хутка павярнуўся да Джона і шапнуў яму на вуха некалькі слоў. Джон знік.

У агульнай сумятні ніхто на гэта не звярнуў увагі.

— Не верце яму! — крычала Ларан, паказваючы на Керна. — Ён злодзей і забойца! Ён украў працы прафесара Дауэля! Ён забіў Дауэля! Ён і цяпер працуе з яго галавою. Ён мучыць і катаваннем прымушае працягваць навуковыя доследы, а потым выдае іх за свае адкрыцці... Мне сам Дауэль гаварыў, што Керн атруціў яго.

Прафесар Керн стаяў спакойна, з усмешкай літасці на твары. Дачакаўшыся моманту калі нервовая спазма здушыла горла Ларан, ён выкарыстаў паўзу, павярнуўся да стаяўшых ля дзвярэй кантралёраў аўдыторыі і сказаў ім уладна:

— Вазміце яе! Няўжо вы не бачыце, што яна ў прыпадку вар'яцтва?

Кантралёры кінуліся да Ларан. Але перш чым яны паспелі дабрацца, Ларэ, Шаўб і Дауэль падбеглі да яе і вывелі ў калідор.

У калідоры Ларан спрабавалі затрымаць паліцэйскія, але маладым людзям удалося вывесці яе на вуліцу і пасадзіць у аўтамабіль. Яны паехалі.

*

На другі дзень Артур Дауэль з'явіўся да начальніка паліцыі і заявіў, што ён просіць правесці вобыск у памяшканні Керна.

# АХОВА САДОЎ АД МАРОЗУ

У вельмі марозныя зімы нізкая тэмпература нішчыць сад. Так званыя марозныя апёкі кары дрэў шырока распаўсюджаны. Апёк — вынік празмернага сонечнага нагрэву паверхні кары дрэў ва ўмовах нізкіх зімовых тэмператур. У зімовыя ясныя дні, асабліва ў канцы зімы, сонца пры ясным бязвоблачным небе кідае на зямлю ўсё больш цёплых праменняў, якія награваюць кару дрэў і гэтым чынам садзейнічаюць прабуджэнню тканяў дрэва. Безумоўна, што апёкі паяўляюцца на сонечным баку ствалоў пладавых дрэў. Не сустракаем іх з ценевага боку, на які не ўздзейнічаюць сонечныя праменні.

Марозныя (альбо дакладней сонечныя) апёкі і нанесеныя імі пашкоджанні пладавым дрэвам прыносяць агромную шкоду садам, выклікаючы пагібель дрэваў і захворванне іх чорным ракам.

Сярэдняя тэмпература паверхнасці кары ствалоў яблынь у зімовы сонечны дзень прыкладна такая: з сонечнага боку ад + 1 да + 4 градусаў (у залежнасці ад пары дня), з ценявага боку ад — 2 да — 6 градусаў.

Назіранні над утварэннем зімніх апёкаў гавораць аб розным супрацiўленні і стойкасці паасобных гатункаў, што звязана з біялагічнымі асаблівасцямі гэтых парод і гатункаў. Шкодны ўплыў сонечнага нагрэва зімою можа быць значна аслаблены правядзеннем простых мерапрыемстваў, якія змогуць у значнай ступені аслабіць і нават перашкодзіць паяўленню зімніх апёкаў.

Да найбольш вядомых прыёмаў можна аднесці абвязванне ствалоў дрэў якім - небудзь матэрыялам (саломай не раім, бо яна прыцягвае да сябе мышаў), ахоўваючы кару ад награвання зімою. Добра абвіваць дрэвы веткамі сланечніка, веткамі сасны, азёрным камышом і трасніком. Гэта таксама абароніць дрэва не толькі ад награвання, але і абгрызання яго зайцамі. Калі абвязваецца саломаю, дык трэба туга абвязаць ад зямлі дрэва — тады цяжка мышам будзе яго падгрызці. Абвязку дрэў трэба рабіць ад асновы ствала. Маладыя дрэвы павінны быць прывязаны да моцных калоў, бо інакш могуць пагнуцца і зламацца. Найлепшы тэрмін абвязкі — гэта глыбокая восень, пасля заканчэння асенніх зацяжных дажджоў.

Абвязку можна замяніць абмазваннем дрэў (асабліва дарослых) вапнаю. Яна таксама ахоўвае кару ад награвання. Нельга карыстацца да абмазвання кары глінаю, бо яна паглынае многа цяпла. Гліна сільна награваецца і перадае цяпло для кары. Абмазванне вапнаю просты і непрацаёмкі прыём, які павінен атрымаць шырокае практычнае прымяненне. Гэтае мерапрыемства, ахоўваючае ад апёкаў, неабходна рабіць з улікам наступных умоў:

1) для абмазвання лепш браць нягашанае вапна, і растварыць яе да жыдкага сметанападобнага стану.

2) абмазку праводзіць позняй восенню, але не ў марозную пагоду.

3) калі дождж зімою змые абмазку, яе трэба паўтарыць, найлепш у безмарозны дзень.

4) карысна да абмазкі з вапны дадаць крыху тлустай гліны да светлажоўтага колеру раствора. Гэта спрыяе таму, што дождж так хутка не змые абмазкі.




Некалькі месяцаў таму назад мой муж вярнуўся з дома адпачынку. І вось бяда. Пасля гэтага стаў, як у нас кажуць, зайздросны. Дзе мы не пойдзем у госці, ён заўсёды мае прэтэнзіі, што я яму замала прысвячаю ўвагі, што замала на яго гляджу і да яго ўсміхаюся.

І вось набліжаюцца святы: новы год, каляды і іншыя. Безумоўна, будзем мы і ў гэтым годзе на навагоднім балю, будзем у гасцях. У яго празмерная зайздрасць выклікае ў нас непатрэбныя непаразуменні. Пагуляць, пабыць у кампаніі хочацца. Мы яшчэ маладыя, жывем другі год з мужам.

Каб знала, што муж пасля навагодняга балу зноў «дасць мне бобу», дык не пайшла б на гулянне. Што зрабіць, каб, так сказаць, яго «вылячыць» ад гэтай хваробы?

**Паліна**
Сямяцічы

**У большасці выпадкаў зайздрасць выклікаецца недаверам, няпоўнай упэўненасцю ў вернасці. Гэта адна справа. Бывае і так, што адзін з супругаў у кампаніі зусім не лічыцца са сваёй жонкай ці мужам. У яго ці яе прысутнасці танцуе толькі з іншымі мужчынамі ці жанчынамі, у яго прысутнасці шэпчацца, а нават цалуецца. І такія паводзіны аднаго з супругаў выклікаюць незадаваленне і непрыемнасць у другога, хаця ўсё гэта не мае нічога супольнага са здрадай.**

**Адным словам, неабходна, каб муж ваш не сумняваўся ў вашай вернасці. Трэба таксама ў кампаніі мець меру ў жартах. Бо любіць таксама трэба ўмець.**

**СЭРЦАЙКА**

* НАВІНЫ ТЭХНІКІ * НАВІНЫ ТЭХНІКІ *

### ПОЛЬСКІ РЭАКТЫЎНЫ САМАЛЁТ «ІСКРА»

Самалёты з прапелерамі паступова трацяць сваё ранейшае значэнне. Замяняюць іх рэактыўныя самалёты. Яго персанал вучыцца на спецыяльных трэніровачных рэактыўных самалётах. Да гэтай катэгорыі належыць польскі рэактыўны самалёт «Іскра». Канструктарамі яго з'яўляецца калектыў супрацоўнікаў дацэнта Тадэуша Солтыса, які атрымаў з гэтага выпадку ўзнагароду ад Міністэрства Народнай Абароны.



### НАЙБОЛЬШЫ НА СВЕЦЕ КОМПАС



Дакладней кажучы, найбольшая компасная ружа на свеце. Выканана з мармуру ў выглядзе своеасаблівай мазаікі, дыяметрам у 5 м. Знаходзіцца гэты компас у Бэлем, у Партугаліі. Гэты компас Партугаліі падарыла Паўднёва - Афрыканская Ўнія ў сувязі з нядаўнымі ўрачыстасцямі, прысвечанымі пяцісотгоддзю з дня смерці Генрыха Жэгляжа, які адкрыў Мыс Добрай Надзеі.

*

Адной з амерыканскіх фірм створана хуткадзеючая машына - перакладчык для перакладу з рускай на англійскую мову. Цікавы яе вузел - слоўнік — ён уключае 50 тысяч слоў.

* НАВІНЫ ТЭХНІКІ НАВІНЫ ТЭХНІКІ *

# АБ КАНЦЫ СВЕТУ

Сёлета быў адзін, зрэшты, няўдалы канец свету. 38-гадовы італьянскі доктар Эліо Бланка дайшоў да вываду, што 14 ліпеня будзе новы патоп. Ён з групай сваіх веравызнаўцаў (пан Бланка з'яўляецца правадыром адной з груп адвентыстаў; яго называюць Брат Эмман) узабраўся на верх гары Мон-Блан, каб там перачакаць страшэнную катастрофу. Пасля аказалася, што такое «канцасветнае» шаленства агарнула ў той самы час групу адвентыстаў у ЗША, Перу, Італіі і Швейцарыі.

Адвентысты (дарэчы, іх секты існуюць і ў нас, на Беласточчыне) ўжо шмат гадоў спецыялізуюцца ў прапаведванні канца свету.

Заснавальнікам секты адвентыстаў быў Віліям Міллер. Гэта ён першы раз акрэсліў, што скачэнне свету адбудзецца ў 1843 годзе. Калі гэтая пропаведзь аказалася фальшывай, у радах адвентыстаў выбухнула такое незадаваленне, што амаль не дайшло да расколу ў секце.

Раскол наступіў у 1864 годзе ў ЗША — на «сапраўдных» адвентыстаў і «Сведкаў Еговы». Прарок гэтых апошніх, Чарл Русэль, зараз жа пачаў прапаведваць канец свету, ведаючы, што гэта найлепшы спосаб здабыць прыхільнікаў. Прыхільнікаў здабыў, але канец свету не наступіў.

Дык вось, свет меў згінуць у 1914 годзе, а пасля ў 1918 годзе. Апошні канец свету, які прапаведваў доктар Бланка, таксама не ўдаўся. Ну што ж, пачакаем наступнага. **(вб)**

### КАСЦЮМ І САБАКІ

Сябры вялікага рускага фізіёлага, Івана Пятровіча Паўлава аднойчы сабралі крыху грошай, каб ён змог купіць сабе новы касцюм, таму, што стары сурдут ужо зусім быў зношаны (малады вучоны толькі што пачаў сваю дзейнасць і яго матэрыяльныя ўмовы былі вельмі цяжкімі).

— Дзякую, сябры! — сказаў збянтэжаны Іван Пятровіч.

На наступны дзень ён прышоў у лабараторыю з радасна зяючымі вачамі. У руках яго была доўгая вяроўка, на якой прывязаны былі сабакі розных парод.

— Вы нават уявіць сабе не можаце, як у час спатрэбіліся гэтыя грошы. Вопыты зараз можна паставіць куды шырэй. Касцюм? Ну што вы! Стары жа яшчэ доўга вытрымае.



# МОДА



**Світэр гольф — гэты фасон надаецца і для дзяўчат і для хлопцаў.**

# Ці ведаеш што...

Штат Джорджыя ў ЗША і Грузія ў СССР па англійску гучаць аднолькава.

*

У гавайскай мове толькі 6 зычных і 5 галосных. Мова гэта вельмі простая, але незвычайна цяжкая.

*

Маляваную падлогу лепш мыць цёплаю задою з дабаўкай 1—2 сталовых лыжак нашатырнага спірту на вядро вады. Нашатырны спірт прыдае фарбе бляск. Нельга маляваную падлогу мыць содай з мылам — ад іх алейная фарба бляднее.

Белыя, немаляваныя падлогі трэба мыць гарачай вадой з мылам, таксама без соды. Моцна забруджаную падлогу перад мыццём трэба намачыць гарачай вадою і пашараваць пяском з дапамогай шчоткі альбо веніка.

*

Яшчэ ў 1945 годзе было нас усяго толькі 24 мільёны.

Зараз ёсць ужо амаль 30 мільёнаў. Гэта значыць, што кожны пяты грамадзянін нашай краіны нарадзіўся пасля апошняй вайны.

*

Гавораць: хто рана ўстае, таму Бог дае, а хто рана жэніцца таму...

У нашай краіне пасля пяцідзесяцігадовага ўзросту жэніцца толькі адна асоба на тысячу. Затое да 19 год жэніцца ў нас адзін на 20 асоб.

Аднак найбольш (кожная дзесятая асоба) жэніцца ў нас паміж дваццатым а дваццаць чацвёртым годам жыцця.

*

У Чэхаславакіі пад кіраўніцтвам інжынера І. Мацку ў Інстытуце медыцынскай фізікі пры медыцынскім факультэце Карлова ўніверсітэта ў горадзе Градзец Карлове праводзіцца значная работа па кібернетыцы. У прыватнасці, створана механічная мадэль сабакі, якая выкарыстоўваецца для дэманстрацыі ўмоўных рэфлексаў.

*

Паводле паведамлення амерыканскай газеты, адна з лабараторый у ЗША распрацоўвае эксперыментальную сістэму для сувязі паміж касмічным караблём і Зямлёй. Сістэма выкарыстоўвае сонечныя праменні, якія збіраюцца, мадулiруюцца і накіроўваюцца ў патрэбным напрамку. На прыёмным пункце праменні прапускаюцца праз дэтэктар, узмацняюцца і падаюцца на дынамік.

Вучоныя лічаць, што гэты від сувязі найбольш падыходзіць для касмічнага карабля, а абсталяванне яе — лягчэй і танней.

# Дом селяніна

Выходзіць, людзі добрыя, не дарма мы ўносілі ўклады на пабудову Дома Селяніна. Агромны гэта дом. У такім уся нашая вёска змясцілася б ды яшчэ засталося б месца для грамадскай рады з павятовымі інструктарамі і ваяводскімі дэлегатамі.

Хутка ў Доме Селяніна адкрыюць гатэль. Для прыезджых адведзена ў ім 175 пакояў. У кожным пакоі мяккі ложак, шкаф, столік з крэсламі, умывальнік з люстрамі, радыёпрыёмнік і ўсякія іншыя фінціклюшкі. І ўсё гэта такое чыстае, ды бліскучае, што хоць гвалт крычы.

Пры Доме Селяніна будзе рэстаран, у святліцы тэлевізар, свежыя газеты. Дзяжурны юрыст розныя кансультацыі бясплатна даваць будзе. А найважнейшае, мабыць тое, што кожны селянін адчуваць сябе тут будзе поўным гаспадаром.

Уявіце сабе, добрыя грамадзяне, што сусед надумаў аспрэчваць вашу мяжу і намерыўся прырэзаць сабе метр вашай зямлі з межавой грушай.

Пакуль сусед збірае сведкаў, гатовячы справу ў суд, вы хуценька едзеце ў Дом Селяніна. Падрабязна расказваеце юрысту аб сваёй справе, высвятляеце колькі галінак грушы звешваецца на ўчастак суседа, паказваеце яму старыя, зашмальцаваныя паперкі.

Атрымаўшы параду спяшаеце ў свой пакой, сядаеце за стол ды пішаце:

Дарагі сусед!

Хутчэй табе вочы вылязуць, чым маю грушу пабачыш. Калі добра прыгледзішся, дык пераканаешся, што не грушы звісаюць на твой гарод але фігі з макам. Згодна з манітарам такога та дня, не бачыць табе мае зямлі, як уласных вушэй не пабачыш. Апрача гэтага, згодна з пастановай за нумарам такім та і рашэннем міністра параграф гэтакі, клічу цябе да крымінальнай адказнасці за замах на маю ўласнасць. Будзь здароў і не кашляй. Напісана ў Доме Селяніна — табе хлапчына.

Пасля націскаеце гузік. Задыханай служанцы аддаеце ліст да высылкі а самі спускаецесь у рэстаран напяваючы: гуляй душа, весяліся.

А ў рэстаране... Божанька ты мой! Поўна людзей з Аполя, Шчэціна, Кашаліна і кожны свае гісторыі расказвае.

Зразумела, што вы таксама ўстаўляеце свае тры грошы, расказваючы, як груша прывяла вас у Дом Селяніна. Суседа вы так перад людзьмі размалюеце, што лепш яму ў Дом Селяніна не паказвацца.

Або прыязджаеце ў Дом Селяніна са скаргай на каморніка, які за даўгі забраў вашыя рэчы. Падпісаўшы скаргу, аддаеце яе дзе трэба а вам кажуць:

— Едзьце дамоў. Справу разгледзім. Вінаватага пакараем. Забранае вернем. Пры народнай уладзе нічога не прападзе.

Седзячы ў цягніку ды паглядаючы праз акно ў шырокі свет вы сабе напяваеце:

— Эх і куцая ж экзекуцыя, калі права па нашым баку...

Зрэшты, мілыя чытачы, усіх спраў не пераказаш. Важнае тое, што Дом Селяніна прыбліжыць нашыя вёскі да Сталіцы.

*Дзядзька Лявон*




### КАНСУЛЬТАЦЫЯ

— Скажыце мне, доктар, што ў мяне такое? Толькі не па-латыні, а папросту.

— Вы ласун, гультай і п'яніца.

А цяпер напішыце гэта па-латыні, каб я мог паказаць на службе і атрымаць адпачынак па хваробе.

Надзя Крукоўская
Сакі.



— Кіс-кіс-кіс...

### НЕ ВЫТРЫМАЎ





## БЕЛАРУСКІЯ ЧАСТУШКІ

Усё б я пела, усё б я пела
Розныя прыпеўкі,
Ды цяпер мне не да песень,
Дарагія дзеўкі.

Мяне мамачка будзіла,
Нада мною плакала:
— Уставай, мая дачушка,
Я цябе засватала.

Я скакала, драпацела,
За старога не хацела,
Бо ў старога барада,
А я — дзяўчына малада.

Ты не сватайся, Мікіта,
Я прасватана, прапіта,
Плачу, лёс свой праклінаю,
За каго іду, не знаю.

З неба звёздачка ўпала
У халодную ваду.
Я за п'яніцу папала,
Ей жа Богу, прападу.

Ах ты, п'яніца - прапой,
Нажылася я з табой:
Піпку курыш, водку п'еш,
Дзевак любіш — мяне б'еш.

Пейце, дзевачкі, прыпеўкі,
Як жылося ў мамачкі,
Піла, ела, што хацела,
Спала да заранэчкі.

(Са зборніка «Беларускія частушкі»)

## ХЛАПЕЦ і ЯЙКІ

(ГУМАРЭСКА)

Было гэта за цара. Пайшоў адзін хлапец на рынак прадаваць кошык яек. Насадзіў яго на кій і панёс на плячах.

Ідзе хлапец, ідзе, а сам голасна кажа:

— Вось нясу я трыста яек, пяць коп. Прадам іх на рынку па капейцы за штуку, вазьму трыста капеек г. зн. 3 рублі, а як удасца прадаць па дзве капейкі, вазьму 6 рублёў. За гэтыя грошы куплю свінню, выкармлю яе, апаросіцца і прынясе яна мне дванаццаць парасят — усе свінкі. Падрастуць яны і кожная прынясе мне па тузіне парасят, а парасята падрастуць апаросяцца і прынясуць яшчэ па тузіне. Не агледзіцца чалавек, як цэлы статак будзе ў мяне. Гэты статак я буду пасці ў лесе, няхай свінні жалудамі і каштанамі кормяцца. Будуць есці і есці жалуды і каштаны, адкормяцца, тоўстымі стануць, і іх на рынак паганю. Усе прадам, атрымаю цэлую кучу грошай. Тады куплю я сабе добрага каня, а сам пабрыюсь, памыюсь, найлепшы касцюм насаджу на сябе, сяду вярхом на свайго белага каня, шапку на бакер і гайда! Паскачу ва ўвесь дух і проста да царскага палаца. Прыеду, ад раніцы да вечара буду скакаць, ездзіць перад царскім палацам, конь усё поле капытамі скапае. А царская дачка сядзе ля акна і будзе на мяне глядзець і любавацца. І вось пасватаюся я да царскай дачкі і ажанюся з ёю. І пасля народзіць яна мне сына і назавем мы яго Ванюшкай. Пайду я на рынак, куплю яму яблык, груш. Прыду дамоў — Ванюшка выскачыць мне насустрач да варот, я і абніму яго і скажу: «Хадзі да мяне сыночак, Ванюшка, хадзі да свайго таты, ён табе яблык і груш дасць»! Забыў хлапец, выцягнуў руку — хацеў паказаць як будзе абнімаць сыночка, Ванюшку, а кій узяў ды і выслізнуўся з рук. Кошык бух на зямлю! Яйкі разбіліся. Заплакаў хлапец:

— Эх, гора, бяда! Прапала ўсё маё багацтва! Пачаў ён збіраць яйкі, якія яшчэ не разбіліся і раптам бачыць — следам за ім, па дарозе, ідзе чалавек. Сорамна стала хлапцу і пытае ён чалавека: — Скажы, дзядзька, доўга ты ішоў за мной? А гэты яму ў адказ:

— З таго часу, калі ты пачаў багацець і пакуль тваё багацтва ў пыл не перамянілася.

Мікола ПАНФІЛЮК



Прыцягнула

### НА КРАЙ СВЕТУ

— Ах, я за табою бег бы на край свету, — гаворыць хлопец да дзяўчыны.

— А я ад цябе ўцякла б на край свету, — адказвае яму дзяўчына.

Мікалай Якімчук
Стаўбцы

### БАБУЛЬКА І ЎНУК

— Чаго ты палез туды? — кажа бабулька, убачыўшы на дрэве ўнука. — Глядзі, як паляціш!

Праз нейкі час унук прыходзіць да бабулькі з плачам і разбітым носам.

— Ты, бабулька, дрэнна гаварыла, я думаю, што сапраўды палячу, а я толькі ўпаў, — скардзіцца ўнук.

Н. Ю.
Агароднікі

### АШУКАНЕЦ

— І вы хочаце за гэтага тыпа аддаць сваю дачку? А вы ведаеце, што ён сядзеў чатыры гады ў турме?

— Вось як!? А то ашуканец! Мне казаў, што сядзеў усяго два гады.

Ліда Палаўянюк
Васількова

### З савецкага гумару

Увага, пачынаем вытворчую гімнастыку...






